

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***




# наша СЛОВА.pdf

**Другі год выдання** **№ 25 (77) 21 чэрвеня 2023 г.**


# “Пеўчае поле” - 2023

16-18 чэрвеня прайшоў рэспубліканскі фестываль харавога мастацтва "Пеўчае поле", паведамляе БЕЛТА.

У фестывалі прынялі ўдзел 27 вакальна-харавых калектываў з усіх абласцей Беларусі. Урачыстае адкрыццё адбылося 16 чэрвеня ў 20.00 на сцэнічнай пляцоўцы курортнага пасёлка Нарач. У ліку гасцей свята - народны ансамбль песні і танца "Сіверка" з Архангельскай вобласці Расіі і ансамбль "Песняры".




Праграма таксама ўключала конкурсныя выступленні калектываў, якія прайшлі 17 чэрвеня ў 11.30 у Мядзельскім раённым цэнтры культуры. Сваё майстэрства прадэманстравалі хоры і ансамблі з народнай манерай выканання. Калектывы з акадэмічнай манерай выканання выступілі ў другой палове дня ў касцёле Маці Божай Шкаплернай.




17 чэрвеня ўвечары мядзяльчане і госці азёрнага краю дружна сабраліся ў амфітэатры на ўрачыстае закрыццё фестывалю харавога мастацтва "Пеўчае поле". Пачалося мерапрыемства канцэртам Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Г. І. Цітовіча. Выступленне заслужанага калектыву, вядомага ў нашай краіне і за мяжой, плаўна перайшло ў цырымонію ўзнагароджання пераможцаў рэспубліканскага фестывалю харавога мастацтва "Пеўчае поле" - вакальна-харавых калектываў з народнай і акадэмічнай манерамі выканання. Дыпломы лаўрэатам уручалі члены журы. Народны хор Крывіцкага ГпДК Мядзельскага раёна адзначаны ў намінацыі "За вернасць традыцыям харавога мастацтва".




А Гран-пры фестывалю "Пеўчае поле" ўдастоены народны ансамбль народнай песні і музыкі "Світанак" Цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі г. Менска.

*(Заканчэнне на ст. 2.)*

# “Пеўчае поле” - 2023

(Заканчэнне . Пачатак на ст. 1.)

Старшыня журы - мастацкі кіраўнік і дырыжор заслу-жанага калектыву дзяржаўнага камернага хору Рэспублікі Беларусь, залужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Наталля Міхайлава выказала ўдзячнасць арга-нізатарам і ўдзельнікам фестывалю за любоў да песні, да харавога мастацтва. Запэўніла, што наступнае свята будзе яшчэ больш цікавым і з часам зменіць свой фармат да міжнароднага.










Прысутныя ў амфітэатры гледачы змаглі таксама ацаніць выступленне лаўрэатаў конкурсу і паслухаць песні ў выкананні зводнага хору фестывалю, які трады-цыйна завяршае гэта прыгожае мерапрыемства.

На закрыцці гледачы пачулі кампазіцыі ў выкананні вакальнай групы "Чысты голас". Падарункам для ўсіх стаў святочны салют у 22.30.




У нядзелю, 18 чэрвеня, у 12.00 для жыхароў гарадскога пасёлка Свір было арга-нізавана канцэртнае выступленне расійс-кага ансамбля "Сівер-ка".

*https://narachanka.by/kultura/na-respubl-kansk-m-festyval-pe-chae-pole-znagarodz-l-peramozhtsa-vystup-zvodny-hor.*

# Грай, спявай - народ услаўляй!








Народны ансамбль песні і танцу "Лідчанка" Палаца культуры горада Ліды прадставіў яркую канцэртную праграму "Грай, спявай - народ услаўляй!" у рамках свята "Адэльскі фэст", прымеркаванага да Дня Святога Антонія.

Штогадовае традыцыйнае свята адбылося 13 чэрвеня ў аграгарадку Адэльск Гарадзенскага раёна.

*ТК "Культура Лідчыны".*

# Беларусізавалася дзіцячае харчаванне Bambolina

Пра тое, што ўдалося дабіцца з'яўлення беларускай мовы на ўпакоўцы дзіцячага харчавання ад фірмы Bambolina, паведаміў у сацыяльных сетках Ігар Случак.



Пісаць звароты да беларускіх вытворцаў дзіцячага харчавання Ігар Случак з аўтаркай кнігі "Мова 404" Алінай Нагорнай пачалі некалькі гадоў таму, адразу пасля нараджэння ў іх сына Стэфана. Усім ім былі накіраваныя лісты яшчэ напрыканцы 2020 года. Але доўгі час ішлі адны адмовы з рознымі адгаворкамі.

Урэшце ў верасні 2021 года кампанія "Аазіс Груп" адказвала, што дадасць беларускую мову на сваю прадукцыю, калі з'явіцца тэхнічная магчымасць. І нарэшце ў сакавіку 2023 года беларускае апісанне нарэшце з'явілася на патчах пюрэ і пакунках соку Bambolina, якія выпускае гэтая кампанія.

Цяпер Ігар і Аліна працягваюць перапіску з "Аазіс Груп" па пытанні з'яўлення беларускай мовы і на шкляных слоіках Bambolina. Пакуль вытворца адмаўляе, але ёсць спадзяванне, што яго ўдасца некалі дацiснуць і тут.

У кожным разе Bambolina - першае дзіцячае харчаванне з беларускай мовай, якое выпускаецца масава, а не лімітаванымі партыямі.

*Фота: facebook.com/ihar.sluchak.*





# Зямля бацькоў - мая зямля

Вельмі цікавая сустрэча і па форме, і па зместу прайшла ў Нясвіжскай бібліятэцы імя П. Пранузы."Зямля бацькоў - мая зямля" - так назвалі гэтую сустрэчу з вядомымі літаратарамі Беларусі, чальцамі журы літаратурна-музычнага конкурсу пра Нясвіж, прысвечанага яго 800-годдзю, Таццянай Яцук, Валянцінай Драбышэўскай, Таццянай Жылінскай. Прымалі гасцей чалец журы, заг. бібліятэкі Аксана Рыжыкава і заснавальнік аргкамітэта, пісьменніца Зоя Капуста.







Прысутныя сутыкнуліся з неверагоднай энергетыкай сапраўднай паэтычнай творчасці, артыстызмам і прафесіяналізмам.

На базе бібліятэкі прайшло паседжанне журы конкурсу, дзе падведзены вынікі фінальнага этапу. Вынікі будуць апублікаваны.







Старадаўні Нясвіж атрымае да свайго 800- годдзя зборнік творчых прац, прысвечаных гэтаму чароўнаму гораду - культурнай сталіцы, сэрцу Беларусі. А свята горада абавязкова пройдзе разам з пераможцамі - літаратарамі і канкурсантамі - музыкамі. Дзякуй усім за ўдзел!

***Зоя Кулік.***





# Анатолю Бутэвічу - 75

Чалавек вялікага таленту, актыўны грамадскі дзеяч, асветнік, краязнаўвец Анатоль Бутэвіч 15 чэрвеня адзначыў 75-годдзе. Усю сваю невычарпальную энергію ён прысвячае гісторыі і культуры Беларусі. Праяўляючы няўтольную цікавасць да традыцый і гісторыі роднага краю, славутых імёнаў і постацей, ён пасродкам свайго пісьменніцкага таленту данёс не адну дакладную і цікавую гісторыю да шматлікіх чытачоў. За сваю ўнушальную кар'еру здзейсніў шэраг культурных праектаў і ініцыятыў.



Чвэрць стагоддзя таму назад Анатоль Бутэвіч вызначыў яшчэ адзін вектар у сваёй творчай дзейнасці - пачаў пісаць творы для дзяцей, якія вучаць маладое пакаленне любові да роднай прыроды і прыгожага беларускага слова. Аўтар з задавальненнем праводзіць сустрэчы з чытачамі дзіцячых бібліятэк і школьнікамі, распавядае ім пра цуды Беларусі і гісторыю роднай краіны.

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і на Нясвіжчыне. Вучыўся ў Вяліка-Ліпскай васьмігадовай школе. Скончыў Сноўскую сярэднюю школу Нясвіжскага раёна. Скончыў аддзяленне беларускай мовы і літаратуры БДУ. Працаваў рэдактарам Беларускага тэлеграфнага агенцтва, намеснікам рэдактара газеты "Чырвоная змена", дырэктарам рэспубліканскага выдавецтва "Мастацкая літаратура", старшынём Дзяржаўнага камітэта па друку, міністрам інфармацыі, міністрам культуры і друку, генеральным консулам Рэспублікі Беларусь у Гданьску… Анатоль Бутэвіч мае дыпламатычны ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь. Кандыдат навук у галіне інфармацыйных тэхналогій. Лаўрэат шматлікіх прэмій. Член рэдкалегій часопіса "Вясёлка", "Краязнаўчай газеты", намеснік старшыні рады Беларускага фонда культуры, старшыня таварыства "Беларусь - Польшча", намеснік старшыні Рэспубліканскага грамадскага савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, старшыня грамадскай назіральнай камісіі пры Міністэрстве культуры па ахове гістарычна-культурнай спадчыны, член Савета ветэранаў моладзевага руху і г. д.

Шчыра віншуем Анатоля Іванавіча з юбілеем. Жадаем яму здароўя, натхнення, сямейнага дабрабыту і новых кніг!
















# Майстар-клас ад "Талера"

Майстар - клас па пляценні вянкоў і лялек-пакосніц з лугавых кветак і траў далі ўдзельніцы народнага гурта "Талер" аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры горада Ліды.





*ТК "Культура Лідчыны".*

# "Гаспадарства кветак - васілька і пралескі"

Філіял "Інтэграваная бібліятэка агр. Дворышча" запрасіў юных чытачоў на пазнавальную экалагічную гадзіну "Гаспадарства кветак - васілька і пралескі".







Удзельнікі адгадвалі загадкі, актыўна ўдзельнічалі ў розных конкурсах і гульнях. Да ўвагі прысутных былі прапанаваны конкурс на лепшага знаўца кветак, конкурс "Перакладчык", дзе трэба было з рускай мовы перакласці назву кветкі на беларускую; конкурс "Мастак" дазволіў дзецям пафантазіраваць і намаляваць кветку, якой не існуе; конкурс "Майстра" - сплесці вянкі. Паслухаўшы легенды пра кветкі, правялі конкурс "Натхненнне", дзе трэба было спачатку прыбраць фею кветак і ляснога гаспадара Пана, а потым прыдумаць казку з гэтымі персанажамі.

*ТК "Культура Лідчыны".*





*Навіны Германії*

# Вышэйшая адукацыя ў Германіі - гэта проста, надзейна і выгадна. Рэальныя інвестыцыі ў сваю будучыню!

У краінах СНД часта лічыцца, што навучанне ў Еўропе - гэта заўсёды дорага, складана і даступна толькі абраным. І тут мы Вас хочам здзівіць. Германія - адна з нямногіх краін Еўропы, дзе за вышэйшую адукацыю не трэба плаціць. Так-так, адукацыя ў Германіі бясплатная, у тым ліку і для замежных студэнтаў! Дзверы ва ўніверсітэты Германіі адкрыты для Вас, і Вы можаце ўжо цяпер пачаць навучанне па адной з многіх спецыяльнасцяў у самых прэстыжных навучальных установах Еўропы. Узровень навучання Вы таксама выбіраеце самі, няхай гэта будзе бакалаўрыят ці магістратура.

Што трэба для гэтага? Самае галоўнае - жаданне, а калі ёсць жаданне, то астатнія перашкоды ў выглядзе замежнай мовы адыдуць на другі план. Аднак у любым выпадку вольнае валоданне замежнай мовай з'яўляецца асноўным крытэрам, бо навучанне праходзіць на англьскай ці нямецкай мове.

Вы ўбачыце, як проста перад Вамі адчыняцца дзверы ў нямецкія ўніверсітэты, якія так майстэрска аб'ядноўваюць векавыя традыцыі і сучасныя тэхналогіі.

І яшчэ адна выдатная навіна, якая Вас без сумневу ўзрадуе - ніякіх уступных іспытаў. У Германіі працуе каля 400 вышэйшых навучальных устаноў - і ніякіх іспытаў! Вам патрэбны ўсяго толькі - атэстат, сертыфікат пра веданне ангельскай ці нямецкай мовы і даведка пра заканчэнне прынамсі аднаго курсу ў акрэдытаваным ВНУ. Існуе таксама магчымасць паступлення ва ўніверсітэт непасрэдна пасля заканчэння школы, прайшоўшы гадавое навучанне ў каледжы давнушнай падрыхтоўкі (штудыенкалег).

Па-за залежнасцю ад таго, замежны студэнт атрымлівае вышэйшую адукацыю ці студэнт, які мае нямецкі пашпарт, навучанне ў ВНУ Германіі бясплатнае для ўсіх. Вам трэба будзе толькі аплаціць невялікі студэнцкі збор, прыкладна 200 еўра ў семестр. Адзіным выключэннем з'яўляюцца ўніверсітэты, размешчаныя ў зямлі Бадэн-Вюртэмберг. Тут вучоба для замежных студэнтаў з'яўляецца платнай і складае каля 1500 еўра ў семестр.

Калі Вы ўжо вывучалі кошт атрымання вышэйшай адукацыі на Радзіме, то Вы адразу зразумееце, што навучанне ў прэстыжных нямецкіх універсітэтах абыходзіцца танней, чым вучоба на платным аддзяленні ВНУ СНД.

Многія жадаюць паспрабаваць жыць і вучыцца ў іншай, асабліва еўрапейскай краіне, і часцяком выбіраюць для сябе Германію. Цяпер і Вы маеце такую магчымасць. Пасля залічэння ва ўніверсітэт вы атрымаеце статус студэнта і студэнцкі білет. Вы можаце жыць у Германіі і вучыцца, вы можаце вывучаць і практыкаваць новыя мовы, можаце акунуцца ў новую для сябе атмасферу. Вам адкрываюцца сапраўды новыя перспектывы ў жыцці,



працы, светаадчуванні.

Вядома, не гледзячы на бясплатнае навучанне ў мясцовых універсітэтах, вам давядзецца аплачваць выдаткі на жыццё, а вось кошт жыцця студэнта ў Германіі залежыць ад горада. З прыемных навін - наяўнасць студэнцкага білета значна паменшыць выдаткі на пражыванне ў Германіі, дзякуючы шматлікім зніжкам для студэнтаў.

Найболей паспяховыя ў вучобе студэнты і тыя, якія добра праявілі сябе могуць атрымліваць стыпендыі, сродкі на якія паступаюць з розных дабрачынных фондаў. Апроч гэтага, студэнты ў Германіі маюць права на падзаробак.

Скончыўшы навучанне ў вышэйшых навучальных установах Германіі, у Вас ёсць добры шанец знайсці працу ў Еўропе, тым больш віза па заканчэнні навучання падаўжаецца на тэрмін ад аднаго да паўтары гадоў. А далей, вы лёгка зможаце падоўжыць візу і атрымаць від на жыхарства. Ці вы можаце вярнуцца дахаты і атрымаць прэстыжную працу, валодаючы дыпломам еўрапейскага ўніверсітэта, вольна валодаючы некалькімі мовамі і маючы досвед і сувязі ў вядучай еўрапейскай краіне.

У Германіі ёсць высокае запатрабаванне ў высакакласных адмыслоўцах, якія маюць вышэйшую адукацыю.

Германія чакае Вас!

***study.in.***

*Юзаф Мацкевіч*

# Эксперты ў "летувіскай справе"

*Ад перакладчыка. Я ўжо дастаткова падрабязна пераказваў гэты артыкул ў сваёй кнізе "Шэпт пажоўклых старонак"* [1]*, але праз больш, чым 6 гадоў вырашыў цалкам перакласці гэты цікавы тэкст Юзафа Мацкевіча.*

## Як са справамі на месцы? Ліда

Палітыка адміністрацыйных уладаў ўжо неаднаразова крытыкавалася ў нашай газеце. Я не маю намеру стамляць чытача паўторам аргументаў. Па некаторых прычынах я таксама зараз ўстрымаюся ад крытыкі летувіскай меншасці. Зыходзячы са сваіх ведаў пра край, я мог бы падысці да яе зусім з іншай кропкі гледжання,.

[далей у газеце вялікі абзац прыбраны тагачаснай цэнзурай]

### Дзяржаўныя дзеячы адміністрацыі

Як я ўжо зазначыў на пачатку, устрымаюся ад абмеркавання польска-летувіскага пытання, якое цяпер адлюстроўваецца ў палітыцы адміністрацыйных уладаў. Хаця б таму, што нельга абмяркоўваць пэўную тэму з чалавекам, які не разбіраецца ў гэтай тэме. Аднак, адна толькі канстатацыя гэтага факта выклікае ў нас сур'ёзныя агаворкі. Узаемаадносіны Польшчы і Летувы на працягу стагоддзяў былі фундаментальным і галоўным фактарам фарміравання сэнсу існавання Рэчы Паспалітай. Гэтыя ўзаемаадносіны не перасталі быць актуальнымі і сёння і ў будучым могуць вызначаць расстаноўку палітычных сіл у гэтай частцы Еўропы. Вось чаму нам здаецца немагчымым, каб такая важная сфера з польскага боку была аддадзена другарадным чыноўнікам, прадстаўнікам бяспекі і звычайным функцыянерам.

Гэтыя людзі прызвычаіліся выступаць супраць нас і часам матывуюць нас кіравацца рацыяй знешняй палітыкі дзяржавы. Што ж, я лічу, што самая надзённая неабходнасць для знешняй палітыкі, ёсць неабходнасць растлумачыць нам стан рэчаў.

### Ліквідацыя хаты-чытальні і суды

Як прыклад, бяру першы ж выпадак і еду ў Ліду.

Як вядома, у Віленскім і Наваградскім ваяводствах, былі ліквідаваны летувіскія чытальні ва ўсіх выпадках, калі кіраўнікі гэтых устаноў абвінавачваліся ў антыдзяржаўнай дзейнасці, захоўванні нелегальнай літаратуры і г. д. У цяперашні час працягваецца шэраг судовых працэсаў супраць гэтых кіраўнікоў. Яны прыцягнуты да крымінальнай адказнасці па 5-м артыкуле, які кажа пра *"здраду дзяржаве з намерам адарваць частку тэрыторыі праз збор кніг, у якіх маецца змест, што спрыяе гэтай мэце"*.

На адным з такіх судовых працэсаў я і прысутнічаю ў Лідзе. Адразу кідаюцца ў вочы дзве рэчы. Па-першае падсудных абараняюць выбітныя адвакаты-палякі з Вільні, якіх мы на 105 % ведаем, і іх немагчыма западозрыць у тым, што прафесійныя інтарэсы яны ставяць вышэй за патрыятычныя пачуцці. Другое, што экспертам, знаўцам польска-летувіскіх дачыненняў прызначаецца дробны чыноўнік аддзела бяспекі Віленскай ваяводскай управы п. Баерман, які займаецца тэрытарыяльнымі справамі ў Віленскім, Наваградскім і Беластоцкім ваяводствах.

На лаве абвінавачаных сядзяць: Вінцэнт Дайлідка, Вераніка Чыбір, Пётр Валентукевіч. Усе - кіраўнікі чытальні летувіскага т-ва "Рытас".

Дайлідку бароніць адвакат Янкоўскі. У акце абвінавачання напісана, што ён збіраў нелегальную літаратуру, слухаў радыёперадачы Каўнаскага "Звязу вызвалення Вільні" і інфармаваў насельніцтва пра змест перадач, а таксама імкнуўся адарваць частку тэрыторыі і іншае.

### Кніжка пра Вітаўта

Дайлідка сваёй віны не прызнае. У яго чытальнай зале былі толькі легальныя кнігі, усе з пячаткамі "Рытас"[2], а тыя, якія знайшлі ў яго на гарышчы, яму не належалі і даператрусу там не ляжалі.

**Суддзя:** "Тады адкуль яны ўзяліся?"

**Абвінавачаны**: "Хіба хтосьці падкінуў".

**Суддзя:** "Маеце радыё?"

**Абвінавачаны:** "Так, дэтэктарнае".

**Пракурор:** "Па яму можна было слухаць Каўнас?"

**Абвінавачаны:** "Не".

Дайлідка хутчэй падобны на непісьменнага чалавека, чым на кіраўніка чытальні. Паколькі ў абвінаваўчым заключэнні ў некаторых месцах цьмяна сказана, што знойдзеныя кнігі мелі антыдзяржаўны змест, адвакат Янкоўскі не згаджаецца з гэтым і просіць, каб усе кнігі для суда былі перакладзены на польскую мову. Старшыня

[1] Гл: Лаўрэш Л. Л. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. Гродна, 2017. С. 248-249.

[2] Rytas - па-летувіску "раніца", культурна-асветная арганізацыя. - *Л. Л.*

суда выклікае эксперта Баермана. Гаворка ідзе пра зборнік песень пад назвай "Жаўрук", летувіскі гімн пра князя Вітаўта і г. д.

- Гэты гімн - кажа Баерман, у сваім тэксце ён не мае антыдзяржаўнага зместу, але ж вы ведаеце, чаму яго спяваюць і якое ўражанне ён робіць …

**Янкоўскі:**

- Ці чыталі вы гэтую кнігу пра Вітаўта?

- Не. Але мушу сказаць, што кніга пра Вітаўта Вялікага выдадзена ў Каўнасе і мусіць мець рысы злачынства, бо Вітаўта выстаўляюць як ворага Польшчы, супрацьстаўляюць яго Ягайлу і г. д.

Янкоўскі паўтарае сваю просьбу пра пераклад інкрымінаваных кніг, аднак удакладняе, што адмовіцца ад свайго патрабавання, калі перакладчыкам будзе Баерман.

**Суддзя:** “Чаму?”

**Янкоўскі:** “Як чаму? Кнігу ён не чытаў, але не толькі ведае яе змест, але нават ведае і пра антыдзяржаўны характар гэтага зместу!”

Суд пасля нарады адкладвае справу да перакладу кніг, якую павінен зрабіць Віленскі ўніверсітэт.

Другая справа Веранікі Чыбір выключана з разгляду пасля просьбы адваката выклікаць новых сведкаў.

Трэцяя справа Пятра Валентукевіча цягнецца да позьняга вечара пры адчыненых дзвярах.

### Заробкі ў "Рытасе"

Абараняюць адвакаты Энгель, Кавальскі і Юхневіч (летувіс). Абвінавачванні ідэнтычныя: нелегальная літаратура, радыё, падбухторванне насельніцтва, варожая прапаганда.

Валентукевіч не робіць добрага ўражання. Ён не вельмі разумны і малаадукаваны. Не прызнае сябе вінаватым, але разгубіўся і не можа падаць фактаў у сваю абарону, якія заключаюцца ў тым, што будучы кіраўніком чытальні ў Дубічах, ён змагаўся з уплывам левіцы і камуністаў і такім чынам падтрымліваў дзяржаву. З яго слоў выходзіла, што ў Дубічах у свой час справа даходзіла да камуністычнага бунту супраць паліцыі, але гэта спынілася пасля прыезду сюды Валентукевіча. Таксама ён выступаў супраць заснавання летувіскай арганізацыі "Культура". Аказваецца, у Дубіцкай чытальні ён меў толькі 70 кніжак, а ў яго жонкі ў Мантанах былі 23 кнігі. Ён атрымліваў 180 зл. заробку, а жонка - 120.

Пракурор шчыра злуецца - як так! Разам з жонкаў меў 300 зл. штомесяц за кіраванне бібліятэкай у 90 кніжак! Ці можа гэта адмыслова рабілася для таго, каб умацаваць у насельніцтва дзяржаўныя пачуцці і скампраметаваць летувіскія культурныя гурткі?

Падсудны чырванее і заікаецца. Ён не можа растлумачыць гэтыя дзіўныя рэчы, працягвае і даказвае, што яго нават абвінавачвалі ў сувязях з паліцыяй. Ён робіць з сябе ледзь не канфідэнта паліцыі!

Адзін з суддзяў спачувальна ківае галавой. Пракурор іранічна ўсміхаецца. Адвакат Кавальскі жадае выратаваць абвінавачанага і пытаецца: “У чым розніца паміж "Культурай" і "Рытасам"? Да якой з іх вы належыце?”

Але запалоханы і разгублены Валентукевіч хутка адмаўляецца і ледзь не крычыць: "Ні да якой не належу!"

А пытанне Кавальскага мела істотнае дачыненне да справы. Таму што, спадарства, трэба быць крышку абазнаным у асаблівасцях нашай мясцовасці і ў прадмеце. Сапраўды, здаецца падазроным, што такі "інтэлігент", як Валентукевіч, зарабляў 300 зл. бо меў 90 летувіскіх кніжак і, як сам прызнаецца, ніхто не хацеў іх чытаць, бо ўся моладзь да яго ставілася варожа.

Але Валентукевіч не настолькі адукаваны, каб растлумачыць, што такое "Культура" і "Рытас". Першая летувіская арганізацыя мае выразна левую афарбоўку, а другая наадварот - права-клерыкальную. Абвінавачаны належаў да другой і ваяваў з першай. А паколькі ў ваколіцах Дубічаў панавалі камуністычныя настроі, дык насельніцтва змагалася з Валентукевічам і цягнулася да "Культуры". Гэта і павінен быў растлумачыць абвінавачаны, але ён маўчаў.

Далей прыводзяцца паказанні паліцыянтаў-сведкаў абвінавачвання. Старшы пастарунковы Пучыла кажа пра шкодную пралетувіскую дзейнасць падсуднага. Ён слухаў каўнаскае радыё, а потым збіраў людзей і з пачутага чытаў ім лекцыі. Я не мог яго злапаць, бо перашкаджала рэчка і яны выстаўлялі ахову.

- Адкуль вы пра гэта ведаеце?

- Ад канфідэнтаў.

**Кавальскі:** “Ці ў пастарунку быў хоць нехта, хто ведаў летувіскую мову?”

**Сведка:** “Не”.

**Кавальскі:** “Ці з падсудным ваявала камуна?”

**Сведка:** “Так”.

**Абвінавачаны:** “Ці памятае сведка наша сумеснае п'янства і аб чым тады мы размаўлялі?”

**Сведка:** “Хто п'янстваваў?”

**Абвінавачаны:** “Вы, камендант пастарунка і я”.

**Суддзя:** “Сведка можа не адказваць”.

Другі паліцыянт-сведка паказаў, што ў знойдзеных кнігах нібыта былі словы пра тое, што "палякі не павінны мець прэтэнзіі да летувісаў, бо калісьці Вільня была сталіцай Літвы".

**Кавальскі:** “Ці ведае сведка, у чым розніца паміж "Культурай! і "Рытасам"? Якая ў іх палітычная афарбоўка?”

**Сведка:** “Не ведаю”.

### "Два гады летувіскай гімназіі"

Трэцім сведкам ёсць функцыянер следчай управы Аляхновіч, які ведае летувіскую мову (адзіны!). Ён кажа, што канчатковай мэтай акцыі была падрыхтоўка дыверсій-





ных груп. Падсудны слухаў летувіскае радыё, меў сродкі, купляў старым махорку, а дзецям - цукеркі. Ваяваў з камуністамі, але гэта магло быць маскіроўкай. Аднак не змог адказаць на розніцу ў праграмах "Культуры" і "Рытаса".

- Усе гэта лозунгі "Звязу вызвалення Вільні" ...

**Адвакат Юхневіч:** "Якую адукацыю мае сведка?"

**Сведка:** "Два класы гімназіі".

**Юхневіч:** "Якой гімназіі?"

**Сведка:** "Летувіскай".

Гэтага сведку суддзя распытвае пра сведкаў абароны - сялян і ксяндза з Дубічаў, якія павінны даць свае паказанні. Сведка называе іх вядомымі летувісамі.

**Эксперт у польска-летувіскіх стасунках**

Пасля выступаў сведкаў абароны, запрашаецца спецыяліст па польска-летувіскім стасункам, чыноўнік Віленскай ваяводскай управы Баерман. Ён бярэ ў рукі некаторыя кніжкі, якія далучаны да доказаў абвінавачвання, круціць іх у руках і кажа: "У гэтай кнізе Смятоны[3] сказана, што Вільня будзе сталіцай Летувы. Гэта кніжка вядомага Рандаманскага". Эксперт кажа суду абсалютна агульнавядомыя рэчы. Што летувіскія арганізацыі атрымліваюць дапамогу з Каўнаса, што ў сваёй дзейнасці яны грунтаваліся на непрызнанні *status quo* і пра такую "навіну", што яны лічаць Вільню сваёй сталіцай.

Старшыня суда пытаецца, ці адпавядаюць рэчаіснасці сцвярджэнні сведкаў абвінавачвання адносна агульнай дзейнасці Валентукевіча.

**Эксперт:** "Так, бо тое ж самае робяць усе летувісы".

- Ці быў падсудны членам "Звязу вызвалення Вільні"?

- Так, вядома.

- У вас ёсць доказы?

- Пра гэта сведчыць першая ж кніга, знойдзеная ў яго.

У сваю чаргу абарона пытаецца, ці перасылалася польскай поштай тая ці іншая нелегальная кніжка?

Ні на адно з гэтых пытанняў эксперт не можа адказаць. Але ён кажа, што той страшэнны ўрывак з кніжкі, у якім расказваецца пра Польшчу, напісаны як быццам блудніцай разам з царом Мікалаем II, хіба ж гэта не бачна?

**Адвакат Энгель:** "Эксперт памыляецца, гэты урывак тычыцца не Польшчы, а нацыянальнай дэмакратыі, партыі, да якой адмоўна ставяцца не толькі летувісы".

**Эксперт:** "Ну, так. Але ёсць яшчэ ўрывак, дзе напісана, што Летува будзе мець сойм у Вільні ..."

**Адвакат Энгель:** "Эксперт не ведае, што гэта кніжка была выдадзена ў 1905 г. супраць царскіх уладаў?"

**Старшыня суда** да эксперта: "Ці не жадаеце вы прачытаць гэтыя кнігі? А аб'явім перапынак?"

Маўчанне.

**Адвакат Энгель:** "Ці кніжка Майроніса, у якой маецца тэкст, які вы інкрымінуеце, была выдадзены ў Вільні і прайшла праз цэнзуру гарадскога старасты?"

**Эксперт:** "Не памятаю. Ва ўсялякім разе, гэта не мае значэння, таму калі яна выдадзена ў 1921-22 гг., дык тады стаўленне да праблемы было вельмі няяўным".

**Энгель:** "А што было ў Вільні ў другой палове ліпеня 1920 г.?"

**Эксперт:** "Я не памятаю".

**Кавальскі:** "Калі ўсталявалася дэмакратыя?"

**Эксперт:** "Не памятаю".

**Энгель:** "Як доўга летувісы былі ў Вільні?"

Маўчанне.

- Дык можа эксперт раскажа, праз якія перыпетыі прайшла Вільня і хто яе заняў першым - бальшавікі ці летувісы?

**Эксперт:** "Высокі суд, я трошкі здзіўлены гэтымі пытаннямі".

**Энгель:** "Прашу адказаць!"

**Уладны эксперт у галіне польска-летувіскіх стасункаў:** "Спачатку былі летувісы, потым прыйшлі бальшавікі, а потым іх выгнаў Жалігоўскі".

Смех у зале.

* * *

Валентукевіч быў асуджаны апоўдні наступнага дня на 3 гады зняволення з пазбаўленнем правоў на 6 гадоў.

*J. M. [Jozef Mackiewicz] Rzeczoznawcy "sprawy litewskiej" // Slowo. 1938. № 50.*

***P. S. ад перакладчыка:*** 20 лютага 1938 г. віленская газета "Слова" № 49 пісала: *"Ліда. Асуджэнне кіраўніка летувіскай чытальні. 17 лютага 1938 г. перад акруговым судом у Лідзе паўсталі былыя кіраўнікі летувіскіх святліц і чытальняў, якія належаць Таварыству "Рытас" у Лідскім павеце: Вінцэнт Дайлідка, Вераніка Чыбіраўна (Чыбір) і Пётр Валентукевіч. Справа Дайлідкі і Чыбір была адкладзена, і на лаве падсудных застаўся былы кіраўнік летувіскай чытальні ў Дубічах, а потым у вёсцы Мантанах Лідскага павета Пётр Валентукевіч. 18 лютага суд аб'вясціў вырак, па якім Валентукевіч быў прыгавораны на 3 гады пазбаўлення волі з пазбаўленнем грамадзянскіх правоў на 6 гадоў. Суд заявіў, што гэта найменшае з магчымых пакаранняў, бо было ўлічана, што Валентукевіч раней не меў пакаранняў".*

***Пераклад і каментаванне Леаніда Лаўрэша.***

[3] Антанас Смятона (1874-1944) - прэзідэнт Летувы ў 1919-1920-х і 1926-1940-х гг. - *Л. Л.*

# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *У Канадзе, ЗША і Мексіцы: Брыль, Грынкевіч, Дабрынін, Панчанка*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-24 (53-76) за 2023 г.)*

**БРЫЛЬ Янка** (2) - калі гаварыць не пра вёску, якая выклікала ў яго сумненні, а пра рэзервацыю магаўкаў Канавага або Канавакэ (Kahnawake Mohawk Territory, Territoire Mohawk de Kahnawake), то яна размешчана насупраць Манрэаля на паўднёвым беразе ракі Святога Лаўрэнцыя. Ганавагэ, Канавагва, як у Брыля, і іншыя - сярод многіх варыянтаў, як можна падаць назву кірыліцай. Яна была перанесена ў Канаду з назвы вёскі магаўкаў Caughnawaga на рацэ Магаўк у штаце Нью-Ёрк. Гаворачы пра "еўрапейскія варыянты напісання" назвы, вікіпедыст называе лічбу 17.

*"Апроч былых каланізатараў, якія за даўнасцю год называюцца законнымі ўладальнікамі гэтай багатай зямлі, апроч новых прэтэндэнтаў на гаспадаранне яе лёсам ёсць у Канадзе шмат імігрантаў, у тым ліку славян.*

*Тры асноўныя стыхіі - англійская, французская і амерыканская - не столькі суіснуюць тут на працягу стагоддзяў, колькі змагаюцца за непадзельнае панаванне. Нягледзячы на тое, што французская мова побач з англійскай з'яўляецца тут дзяржаўнай, французскі ўплыў на жыццё Канады непараўнальна слабейшы за ўплыў англійскі і амерыканскі, якія, калі браць справу ў моўным аспекце, утвараюць амаль адно цэлае.*

*Імігранты-славяне, каб захаваць свой нацыянальны воблік, увесь час жывуць у змаганні з англасакскім міжкантынентальным шавінізмам. Лепшая, прагрэсіўная частка іміграцыі прымае актыўны ўдзел у агульнапралетарскім змаганні за правы працоўнага чалавека, у агульнанароднай барацьбе за мір. Тут вельмі многа былых прышэльцаў з усходняй Еўропы, многа і наогул, і адносна да насельніцтва іх "новай бацькаўшчыны". Яны жывуць, працуюць там ужо блізу стагоддзе, даўно і трывала стаяць на перадавых пазіцыях, ведучы за сабою другіх, і таму, бясспрэчна, маюць права з законнай гордасцю называць і сябе будаўнікамі эканомікі Канады, гаварыць і пра свой станоўчы ўплыў на яе культуру.*

*Недаравальна было б не ўспомніць чалавечым словам пра народ, які ўжо не толькі даўно не лічыцца гаспадаром гэтай зямлі, але і згадваецца ў нейкім музейна-запаведніцкім плане...*

*Індзейцаў турыстам паказваюць тут з сур'ёзнасцю і пашанай куды меншай, чым мы, напрыклад, паказваем белавежскіх зубраў.*

*У першы наш заакіянскі дзень, адразу пасля Нотр-Дама і шлюзаў Св. Лаўрэнцыя, нас павезлі, як сказаў гід, у індзейскую вёску Канавагва [Канавага].*

*У гэтым крыкліва-экзатычным паселішчы, дзе больш за ўсё было відаць ларкоў з тамагаўкамі, вігвамчыкамі з кары, маскамі, лукамі і іншай сувенірнай дробяззю, нас урачыста сустрэў дзівосна прыбраны ў пер'е правадыр адпаведнага племені, ён жа па сумяшчальніцтву і "файерпокер", ахоўнік вогнішча, нешта накшталт шамана.*

*Спачатку ён вельмі ахвотна, нібы забыўшыся пра ўсю дыпламатычную значымасць моманту, і сам, і ў абдымку з некаторымі турыстамі пазіраваў перад усімі фотаапаратамі, а потым - пачаў маліцца.*

*Падпаліў у нейкіх начоўках кару, патупаў вакол дыму, шастаючы бубнам, падобным на мандаліну, поўную гароху, пагудзеў нешта, а тады накрыў сваё вогнішча чорнай, па ідэі - бабровай шкурай. Ідучы насустрач пажаданню гіда, ён растлумачыў нам сэнс малітвы (за наша, вядома, здароўечка), уперамешку з англійскай мовай сказаў некалькі фраз па-іракезску, а потым... потым стаўся нечаканы цуд!..*

*Свядома ці несвядома грозна-ўрачысты правадыр і ўсемагутны шаман прараніў адно слова... папольску: "Дзенькуе!"*

*Наша вясёлае меркаванне, што гэты падазрона нясклёпісты, вахлакаваты Манцігома Ястрабіны Кіпець хутчэй за ўсё - адэскі ці бабруйскі сваячок Астапа Бэндара, так сказаць, пацярпела папраўку.*

*Манцігома, калі я загаварыў з ім па-польску, развёў у земляцкай усмешцы сваё чырвонае, выпасенае на турысцкай наіўнасці мурло і ахвотна прызнаўся, што ён - адзін з самых прамых ды законных нашчадкаў славутага кантара з Ломжы.*

*У гэтай пацешнай, непрыдуманай навеле пра яшчэ адну форму бізнесу ёсць свой падтэкст - і глыбокі, і сумны.*

*Я ўспамінаў ці, лепш сказаць, па-новаму перажываў яго ў Стратфардскім музеі, перад палотнамі Эміліі Кар, напісанымі на індзейскія матывы, з жыцця плямён, ізаляваных у рэзервацыях.*

*Асабліва запомніліся дзве сасны на вырубе - старыя, самотныя сосны. І надпіс, што прымушае задумацца: "Праклятыя людзьмі, аднак любімыя богам".*

*Аўтарскі жаль і горкі роздум над лёсам абарыгенаў, відаць, быў і ў стылізаваным пад народную разьбу вобразе маці-індыянкі, што ратуе ў сваіх - якіх жа бездапаможных - абдымках дзіця, сімвал народнага мастацтва, асуджанага на пагібель...*

*Хто яго ведае, ці ратуючы гэтае мастацтва, ці*





*проста, як той Манцігома, толькі што з большым культурным шыкам, робячы на ім фестывальны бізнес,- тут жа, пад дахам музея, працаваў нейкі другі мастак. Здаравенны джэнтльмен у беленькай няйлонавай кашулі і "пад бабачкай", ён з-за вуха, з поўнай абыякавасцю да прысутных, лупіў спецыфічнай сякерай па здаравеннай калодзе канадскага дуба, высякаючы "тотам" [татэм] - бажышча.*

*Паблізу ад гэтага джэнтльмена працавала не менш шыкарная лэдзі - вырэзвала з дрэва маскі, без слоў і жэстаў, а толькі стусікамі візітных картачак ці то адказваючы на магчымыя пытанні зацікаўленых, ці то зусім па-дзелавому прапануючы ім свае паслугі.*

*Сімпатычная работніца музея з важнай аб'ектыўнасцю не зусім яшчэ дарослай міс паведаміла нам, што лэдзі-мастачка - індыянка па бабулі ці нават як быццам па маме...*

*Больш індзейцаў нам не давялося ўбачыць".*

У адным месцы запісаў "Свае старонкі. Да творчай аўтабіяграфіі" Брыль заводзіць размову пра мастака Р. Кента, вядомага і тым, што намаляваў і паказаў у сваіх тэкстах і крайнія поўнач, і поўдзень Заходняга паўшар'я.

Мы пісалі Брылю ў лісце № 112 ад 12.05.1992:

*"Паважаны Іван Антонавіч!*

*Рыхтуем даследаванне па беларуска-індзейскіх сувязях, 1492-1992; ёсць раздзелы па беларускай літаратуры (вобраз індзейцаў) і кантактах (згрупаваны ўражанні літаратараў). Выкарысталі Ваш нарыс "На тым баку планеты".*

*Упэўнены, што яго можна б было дапоўніць дадатковымі дэталямі (напрыклад, пра індзейскую вёску - ці былі там, акрамя польскага "Астапа Бэндэра" [Бэндара], сапраўдныя індзейцы; ці прыходзілася Вам сустракацца з індзейцамі па лініі таварыства "СССР-Канада"; якое ваша стаўленне да "справы" Л. Пелціера і нашых "кампаній" у сувязі з ёй (дарэчы, палякі, у якіх вельмі моцная індзеяністыка, дагэтуль збіраюць петыцыі ў абарону Пелціера, за амністыю для ўсіх зняволеных індзейцаў з нагоды 500-годдзя "адкрыцця" Амерыкі, з патрабаваннем да Малруні вырашыць праблему кры любікон лейк у Паўночнай Альберце; прыемна, што гэтым найбольш актыўна займаецца кіраўнік Польскай асацыяцыі сяброў індзейцаў (штаб-кватэра ў Беластоку) Ежы Талочка [Jerzy Tolloczko] (беларус, хоць і не "прызнаецца")).*

*Будзем вельмі ўдзячны за адказ. Калі Вас не бянтэжыць, што наша таварыства знаходзіцца ў апазіцыі да "канкістадорскай" "Пагоні"* [аўтар БСІ ад імя таварыства працягваў выказваць глыбокую заклапочанасць "антыіндзейскай" "семантыкай" "Пагоні" і пасля таго, як яна стала дзяржаўным гербам, - з канём і вершнікам у неспакойнай позе можна было "змірыцца", а вось крыж у спалучэнні з мячом шакіраваў]. *Ва ўсіх напрамках дзейнічаем у тактоўнай, але ўпартай і прынцыповай манеры, але чаму нас пакінула Н. І. Аўсяевіч, старэйшая ў арганізацыйнай групе, не магу зразумець (Вы ўсіх сваіх карэспандэнтаў, вядома, не памятаеце, але ёй адказвалі; Ніна Іванаўна з вялікім замілаваннем, любоўю гаварыла пра Вашы творы).*

*У "Сваіх старонках" (Збор твораў, т. 5, с. 588) Вы называеце прыемным чытаннем "Паходжанне сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржавы". Нам, як "марганістам-энгельсістам", было б цікава даведацца пра Вашую агульную ацэнку гэтай працы. Увогуле кажучы, хоць Энгельс - і немец, але ён нам здаецца значна больш прывабным, чым Маркс і Ленін.*

*З самымі найлепшымі пажаданнямі*

*Алесь Сімакоў, выканаўчы сакратар".*

Адказ Янкі Брыля паўтараў тэзіс, што ў вёсцы Канавага амаль не было нічога сапраўды індзейскага, а Энгельса, які, як вядома, абапіраўся на іракезскі матэрыял праз Л. Г. Моргана, Брыль не аднёс да актуальных тэм ("не так ужо і неабходна").

У "Сваіх старонках" за 1980 г.: *"Амаль адразу, з першых старонак, пайшоў паралельна мілы ўспамін пра наш з Андрэем месяц у Кактэбелі, у ліпені шэсцьдзесят пятага. Цяпер, за сталом, паглядзеў у літаратурную энцыклапедыю, колькі Кенту было тады год. Трыццаць шэсць, а сыну восем. Майму было дзевяць, а мне сорак восем. Мы хадзілі ў горы, на базар, у цір, многа чыталі*



18.V.92

Паважаны Алесь!

Нешта дадаць да таго, што я пісаў у сваім канадскім нарысе, я не магу, — паездка была турысцкая, вёска, у якую нас на плану вазілі, была штучна індзейская, як і той „фаерпокер"...

Шмат гадоў я лічыўся старшынёй беларускага аддзялення савецка-канадскай дружбы, а таго і „работы" мноства было — сустракаўся вельмі рэдкія дэлегацыі, праваджаў з імі гутаркі, весці (падпісваць) пешмат-

**Letter from Yanka Bryl 1992-05-18 part / p. 1 of 3**

…ікую перапіску. Паехаць яшчэ раз у Канаду, ужо не турыстам, а, так сказаць, службова не прышлося. Цяпер я ўжо вольны ад гэтых „абавязкаў", іх перадаў Барысу Сачанку, можа, што-небудзь зменіцца ў іншым часе.

Мяне, вядома, цікавіць тое, што Вы робіце і плануеце рабіць, бо культурная дзейнасць людзей, нашчадкаў пакрыўджаных не можа не цікавіць. І таму жадаю Вам добрых поспехаў.

*Ліст ад Янкі Брыля 1992-05-18, ч. 2 з 3-х (1 арк., 3 стар.)*



*Indian Mother and Child. From a painting by Miguel (Canada)*

Больш канкрэтна мне цяжка што-небудзь абмяркоўваць, — асцярагаюся дылетанцтва, у першую чаргу свайго.

Н. І. Афасевіч, прабачце, я не памятаю.

Таксама і да Энгельса вяртацца ў нейкім азначаным аспекце, шчыра кажучы, не так ужо і неабходна.

Яшчэ раз — шчасця Вам найлепшага!

Я. Брыль

*Ліст ад Я. Брыля 1992-05-18, ч. 3 з 3-х*




*Postcard from Canada. Indian mother and child*

*лежачы, калі ён грэўся каля мяне. Найлепш помніцца кніга польскага індзейца ці індзейскага паляка, здаецца, Сат-ока* [Сат-Ока] *(не знайшоў у даведніках), - не так тая кніга, як наша чытанне, дружба".*

Дружба бацькі і сына - што можа быць вышэй?! Тым больш у сувязі з замілаваннем прыгодамі добрых людзей - у нетрах Канады. Не так важна, што пісьменнікі, як Сат-Ок, падманвалі сваіх чытачоў і "перакручвалі" жыццё сярод індзейцаў у шматлікіх дэталях. Брылі хацелі



верыць, ім гэта падабалася - гэта галоўнае. Што да Кента, то яму не трэба было прыдумваць і ўпрыгожваць. Ён бачыў усё сваімі вачыма ў самых аддаленых месцах.

**Літ.:**

*994 Брыль Я. Жыццё і літаратура // Брыль Я. Збор твораў. Т. 4: Свет далёкі і блізкі: дарожныя нататкі; Пра запаветнае: артыкулы, эсэ, партрэты. Мн., 1981. С. 334-359.*

*995 Брыль Я. Жыццё і літаратура // Брыль Я. Трохі пра вечнае: артыкулы, лірычныя нататкі, эсэ. Мн., 1978. С. 75-100.*

*996 Брыль Я. Жыццё і літаратура: даклад па пленуме СП БССР // Літаратура і мастацтва. 1968. 1 лістап.*

*2880 Брыль Я. На другім баку планеты: з канадскіх уражанняў // Беларусь. 1960. № 10. С. 10-14.*

*999 Брыль Я. На тым баку планеты // Брыль Я. Збор твораў у 4 т. Т. 4: Жменя сонечных промняў. Служэнне. Свет далёкі і блізкі. Думы ў дарозе. Мн., 1968. С. 368-85.*

*135 Брыль Я. На тым баку планеты // Брыль Я. Збор твораў. У 5 т. Т. 4: Свет далёкі і блізкі: Дарожныя нататкі; Пра запаветнае: артыкулы, эсэ, партрэты. Мн., 1981. С. 80-95.*

*10699 Брыль Я. На тым баку планеты // Брыль Я. Працяг размовы: апавяданні, замалёўкі, нарысы. Мн., 1962. С. 190-220.*

*1000 Брыль Я. Свае старонкі: да творчай аўтабіяграфіі. // Брыль Я. Сёння і памяць: апавяданні, мініяцюры, эсэ. Мн., 1985. С. 208-215.*

**ГРЫНКЕВІЧ Мікалай** (4) - хлопчыкі з Аляскі і з Польшчы і Украіны гадамі вучыліся разам у Сан-Францыска - гэта не цікавы вопыт? У большасці з іх ёсць продкі - гэта, безумоўна, цікава і ім. Гісторыкам выкладання геаграфіі як школьнага прадмета цікавы факт, што ўраджэнец Рагачоўшчыны Грынкевіч вучыў хлопчыкаў з Аляскі і Расійскай імперыі геаграфіі. Што пры гэтым, напрыклад, ён расказваў пра Аляску і свой "Паўночна-Заходні край"?

Пераклаў тры галоўныя часткі для праекта "Пра школу" па нашай просьбе адзін з нашчадкаў вучня і настаўніка царкоўнай школы: тры сыны дыякана, ураджэнца Люблінскай губерні Аляксандра Мартыша (Martysh, Martysz) вучыліся ў ёй. Польскі пераклад важны і таму, што ініцыятарам, "рухавіком" школы яе быў епіскап, прызначаны ў момант, калі ён быў інспектарам у Холмскай духоўнай семінарыі. Педагогі і навучэнцы з Холма, цяпер Хэлма ў Польшчы, паехалі з ім у Сан-Францыска. Нашчадкам могуць цікавыя выпрабаванні іх там, каб пераканацца, як усё ж усё добра, досыць правільна ўладкавана ў мірных школах Польшчы, Беларусі.

*"Mnie, jako lekarzowi, t.j. czlowiekowi, do ktorego mozna sie bylo zwrocic podwladnym biskupowi pod dowolnym pretekstem, nie wzbudzajac jego podejrzen, przyszlo, ze tak powiem, z pierwszej reki zapoznac sie z negatywnymi cechami jego charakteru. A poniewaz bezpodstawne przesladowania przyjmowaly ogolny charakter, dotykajac wszystkich osob, majacych taki lub inny kontakt z biskupem i sciagajacych na siebie jego niezadowolenie, t.j. przyslugujacych, podwladnych, uczniow szkoly itd., to nie bylo dnia, aby ktos z nich nie przychodzil do mnie z gorzkimi skargami na "nowe porzadki" i na niezasluzone szykany ze strony nowego biskupa. Przyslugujacy skarzyli sie na to, ze nie maja za co zyc, gdyz Wlodzimierz bez zadnego na to prawa i powodu zmniejszyl ich wynagrodzenie o polowe i o dwie trzecie; skarzyli sie na bezsensowne oskarzenia, ktorych jedynym celem bylo przeksztalcic sluzbe w jakas meke!.. Wychowankowie skarzyli sie na zgnile i niedostateczne jedzenie, na ciasnote i niewygody w biednej suterenie; na to, ze ich zjadaja wszy; ze ich zamykaja na cale noce w karcer, gdzie ich gryza szczury; na to, ze im od rana do wieczora nie daja spokoju, zameczajac nabozenstwami i lekcjami. Slusznosc ich skarg potwierdzaly ich wyczerpane, blade, chore twarze,*




***Юлія Грынкевіч (1881-1946). Крыж на могілках каля Побалава. 2.09.2016. У 1881 г. рэпкаўскія браты Грынкевічы вучыліся ў Магілёўскай духоўнай семінарыі.***



***Жандароў, памёр у 1911 г. Могілкі каля в. Рэпкі. 2.09.2016.***







**Кавалёва, памерла ў 1914 г. Разам з надмагільным помнікам Жандарову - з найстарэйшых са знойдзеных намі на рэпкаўскіх і пабалаўскіх могілках. 2.09.2016**



**Рэпкі. Будынак на месцы царквы 2016-08-19 (фота аўтара БСІ, у першае з двух наведванняў Побалава і Рэпак)**

*porwane i brudne ubrania.*

*Moglem nieco nieufnie odnosic sie do skarg osob przyslugujacych i duchownych, uwazajac ze "kruk krukowi oka nie wykole" i ze, byc moze, w tych skargach jest troche przesady, ale nie moglem pozostawac obojetny na skargi bezbronnych dzieci, nad ktorymi nowy biskup sprawowal swoja arcypasterska wladze. Miedzy innymi, czesto przychodzil do mnie niejaki Grynkiewicz, ktory ukonczyl duchowna akademie i zostal wyslany do Ameryki jako psalmista, za kare za nietrzezwe zachowanie. Opowiadal mi okropne rzeczy o szkolnych porzadkach i jego slowa zupelnie potwierdzaly skargi nieszczesnych chlopcow. Poprosilem go, aby opisal to, co opowiadal mi o szkolnych skandalach. Grynkiewicz nie odmowil mojej prosbie i sporzadzil ponizsza notatke, ktora przytaczam doslownie, gdyz ona doskonale pokazuje zwyczaje wprowadzone przez Wlodzimierza.*

***O SZKOLE***

*W szkole jest 23 chlopcow. Sa oni rozdzieleni na 3 klasy. Sale lekcyjne sluza takze do innych zajec. Nie ma zadnego osobnego pomieszczenia na zajecia relaksacyjne. Wszystkie sale lekcyjne (a takze sypialnie) znajduja sie w suterenie. Dwie z nich sa tak slabo oswietlone, ze na ich srodku nie da sie juz przeczytac druku ksiazki. Brakuje jakiejkolwiek wentylacji. Panuje wilgoc i zaduch. Sala lekcyjna klasy drugiej i jadalnia znajduja sie w tym samym pomieszczeniu.*

*Osmioletni chlopcy maja te same obowiazki, co 15-latkowie. Rozklad ich zajec jest nastepujacy: lekcje z udzialem nauczycieli - 3 i pol godziny (13. 30-17.00); odrabianie lekcji - 3 godziny (8.00-11.00); spiew - 2 godziny (11.00-12.00 i 17.00-18.00); nabozenstwa - 2 godziny (18.30-19.30). W soboty i swieta nabozenstwa trwaja do 6-u godzin. Dzieci sa zmuszane do noszenia dlugich wlosow, co spowodowalo, ze zaleglo sie bardzo duzo wszy.*

*Biskup przywlaszcza sobie pieniadze chlopcow, ktorzy tu z nim przyjechali. Oni wszyscy (12 osob) otrzymali pieniadze na podroz i kazdemu z nich zostalo co najmniej 200 dolarow. Kilku z przyjezdnych chlopcow juz zostalo wyslanych na Alaske i zadnemu z nich nie dano pieniedzy, chociazby na zakup jakiegos ubrania, nie zwazajac na ich wyrazne potrzeby.*

(Тэксты змешчаныя ў "Весніку БІТ", адпаведна: Russel, Mikolaj. Deontologia w eparchii Aleutow i Alaski (2015. 20 лют. № 10), Doktor Russel o Mikolaju Grynkiewiczu (2012. 10 чэрв. № 32), Grynkiewicz, Mikolaj. O szkole (2012. 15 чэрв. № 33.)

**Літ.:**

*407 География в школах и вузах Белоруссии. [Вып. 4]. Мн., 1975. (На с. 157 згадваецца "Е. Лукашева" (гл. арт. БСІ "Дабрынін"). Пра тое, як менш чым праз стагоддзе пасля таго, як вучні і настаўнікі ў Каліфорніі былі "сучаснікамі", дзеці ў Беларусі чыталі пра падзеі апошніх інцыдэнтаў індзейска-амерыканскага супрацьстаяння з ужываннем зброі, - успаміны Мата Нажына. Т. А. Пушкова ("Внеклассное чтение учащи-мися географической литературы"), прааналізаваўшы выдачу геаграфічнай літаратуры ў дзіцячых і школьных бібліятэках Мінска за 1972-1973 гг., вызначыла, што сярод 25 найбольш папулярных выданняў былі мемуары Мата Нажына "Мой народ "Сіў" [так!]" (18 месца), а таксама "Пад полагам п'янага лесу" Дж. Дарэла (17); "Саламіна" Р. Кента (19); "Падарожжа на Кон-Цікі" Т. Хеердала (22). Астатнія кнігі былі прысвечаны іншым кантынентам або агульным пытанням геаграфіі, прычым на першай пазіцыі была геаграфічная белетрыстыка У. А. Обручава ("Плутонія. Зямля Саннікава"). Аўтар даследавання звярнула ўвагу на крайне невялікую колькасць геаграфічнай літаратуры беларускіх аўтараў - і "дастаць яе цяжка" (напрыклад, кнігі Я. Маўра ("Сын вады" і інш.)).*

*736 Травен Б. Индейцы и монах: рассказ // Против*

*тьмы и суеверий: хрестоматия по атеистическому воспитанию школьников. Составили П. С. Солнцев, В. К. Андреенко. Изд. 2-е, доп. Мн., 1973. С. 227-230.*

*1004 Буданаў В. П. Методыка выкладання фізічнай геаграфіі: дапаможнік для настаўнікаў сярэдняй школы: пер. з 2-га рус. выд. Мн., 1948.*

**ДАБРЫНІН Барыс** - памёр у Кіеве, дзе з 1950 па 1951 г. загадваў кафедрай фізічнай геаграфіі Кіеўскага ўніверсітэта; з 1938 па 1941 г. ён працаваў загадчыкам кафедры замежных краін МДУ, адным з заснавальнікаў якой быў.

Мы пісалі члену нашага таварыства ў Бабруйску, географу па адукацыі:

*"БІТ - Болатаву А., Бабруйск 6.1.1992 № 6 Гомель*

*Андрэй!*

*Дзякую за добрыя пажаданні на 92-ы год, "год Калумба".*

*Мясцовае аддзяленне ГА ў адной з публікацыі згадала аб юбілеі і неабходнасці пэўных мерапрыемстваў.*

*Вядомы табе географ Дабрынін нарадзіўся ў Мінску, вучыўся ў Бабруйску, заканчваў гімназію ў Гомелі. Ёсць падстава аб'яднаць намаганні.*

*Ці атрымалася табе высветліць штосьці пра Лукашову?"*

(Што тычыцца географа-амерыканіста Яўгеніі Лукашовай (1909-2001), то яна напісала артыкул "Б. Ф. Добрынин" для выдання "Землеведение. Новая серия" (1957, т. 4) і мы мелі падставы думаць, што яна звязаная з Беларуссю (нейкая "Е. Лукашова" была суаўтарам В. А. Самцэвіча: Маршруты па БССР для самадзейных труп турыстаў і школ. Мн., 1932). У лісце на геаграфічны факультэт (№ 69 ад 2.04.1992) МДУ мы: *"Просім паведаміць адрас Я. М. Лукашовай, якая мае, як мы мяркуем, адносіны да беларуска-амерыканскіх сувязей, якія вывучае нашае таварыства"*. Як высветлілася, яна нарадзілася ў сям'і Мікалая Лукашова ў с. Брадок каля Старога Аскола (Курская вобласць), а яе маці Фані была з сям'і магілёўскага купца першай гільдыі Лейбы Іцкавіча Шыка.)

Летам 1925 г. Дабрынін за тры тыдні даплыў на параходзе з Гамбурга да порта Веракрус. Яго падарожжа падтрымлівала Дзяржаўнае геаграфічнае таварыства СССР.

*"У Мексіцы я меў магчымасць прабыць менш за два месяцы, што, вядома, вельмі няшмат для такой складанай і цікавай краіны, у нас амаль невядомай. Быў у Мексіцы я другую палову жніўня, верасень і пачатак кастрычніка. Недахоп часу і сродкаў, а таксама вельмі дажджлівая восень гэтага года ўскладнілі наладжванне* [устройство] *сур'ёзных маршрутаў па краіне".*

*"Назіранні, праведзеныя падчас паездкі (працягласць маршруту складала каля 500 км), дазволілі Дабрыніну ўбачыць геаграфічную разнастайнасць ландшафтаў усходняга схілу Мексіканскага нагор'я, пазнаёміцца з асаблівасцямі нацыянальнага складу карэннага індзейскага насельніцтва і атрымаць яркія ўражанні, якія паслужылі падставай для ўласных геаграфічных высноў.*

*Не выпадкова праца, апублікаваная ім пасля вяртання на радзіму ў 1926 г. і напісаная на падставе*

Mexican Society of Geography and Statistics
Sociedad Mexicana de Geografía y Estadistica
Calle de Justo Sierra 19, Apdo 10739,
Del. Cuauhtémoc, 06020 Mexico, DF

July 7, 1990
Gomel

Dear Sirs:

We research in Byelorussian-Indian contacts in Mexico. We have several questions of great importance, but we have no any acquaintances among Mexican researchers. Please help us to get into contact with Indianists, Slavists and others who are interested in Mexican-Russian/Soviet relations.

Specifically, we ask you for any Mexican information about Boris F. Dobrynin, a member of your Society (born in Minsk, Byelorussia, 1885, grew up in Gomel, visited Mexico, 1925, worked in Moscow, died, 1951).

We need to cooperate with geographers in the North, including Chicano researchers (the comparison of frontier phenomena in Byelorussia and the Mexican North/American Southwest), and also in some other regions (for example, Yucatan: Merida and Minsk are twin cities).

You may answer in Spanish.
Thank you very much.
With best regards,

Ales Simakou,
Byelorussian-American Indian Society

***Letter to Mexican Society of Geography and Statistics 1990-07-07***



***Boris Dobrynin on Mexico's Native population (from his 1926 article). Early translation for "Indians through the eyes of Belarusians" anthology***





БЮЛЕТЭНЬ БЕЛАРУСКА-ІНДЗЕЙСКАГА ТАВАРЫСТВА
1989 №7 19 лютага

У савецкіх СМІ з'явіліся паведамленні аб двух форумах індзейцаў-сустрэчы паўночнаамерыканскіх плямен (інфармацыя С.Аўрамцава,БІТ) і спецыяльнай канферэнцыі па экалагічных праблемах, у якой акрамя індзейцаў раена Шынгу, Бразілія, удзельнічаюць спецыялісты-эколагі.

ПАЗІЦЫЯ МАЯЛОГА-СТУДЭНТА Асацыіраваны член БІТ, які заканчвае курс завочнага навучання ў ВНУ (17.2 наведаў штаб-кватэру БІТ з мэтай адбору літаратуры для дыпломнай работы па барацьбе індзейцаў на захадзе ЗША у 2-ой палове 19 ст.), паведаміў, што ен меў кантакты са студэнтамі, які, распрацоўваючы маяскую праблематыку ў некалькіх курсавых і ведаючы аб існаванні БІТ, ацаніў аб'яднанне беларускіх індзеяністаў як "несур'ёзнае" і не выказаў жадання далучыцца да яго.

ХТО ЕСЦЬ ХТО У БІТ (прадстаўляем членаў таварыства) Грыдзін Андрэй, (АГ)БІТ з 13.2.1988: нарадзіўся ў 1962 г. ў Іркуцкай вобласці, адукацыя сярэдне-спецыяльная; трэнер-выкладчык Цэнтра па ваенна-патрыятычнаму выхаванню моладзі Партызанскага раена г.Мінска; жыве ў Заслаўі; зацікавіўся індзейцамі ў 1974 г.; рэлігія індзейцаў, баявое майстэрства, медыцына; шауні, сіу, апачы.

КАНАДЫЯН ТРЫБЮН 6.2 Пэкфард пакідае расісцкую спадчыну. Аналіз навін (адстаўка прэм'ер-міністра Ньюфаундленда, які праводзіў палітыку ігнаравання правоў індзейцаў); П.Агрэска. Калі карты пакладзены на стол (падыходы ўрада і левых сіл да праблем карэннага насельніцтва, каментарый).

ЧАСОПІСЫ 14.2 паступіў №2 "США"; з артыкула В.А.Война. Амерыканцы аб перабудове: "Часы сапраўды змяніліся": "...тэкст да карыкатуры. Прэзідэнта пераконваюць у тым, што Амерыка не абысціся без "імперыі зла". "Без архіворага мы б страцілі пачуцце мэты". Сорак гадоў, гавораць яму, ворагам была Расія, а раней - Германія і Японія. Да гэтага - Іспанія, а перад тым - Мексіка. Яшчэ раней - Англія... Значыць, трэба "назначыць на месца Расіі кагосьці іншага". Каго? Прэзідэнт, падумаўшы, прапаноўвае: "Можа, індзейцаў" (с.79).

Працягваецца актывізацыя ў публіцыстычным слоўніку тэрміна "рэзервацыя". Сярод новых ужыванняў - водгук "Дімаўца" на выступленне ў снежаньскім нумары "Коммуниста Белоруссии" ("Ва ўмовах абуджэння нацыянальнай самасвядомасці ні ў якім выпадку нельга дапускаць крайнасцей - расцягвання грамадства на дэмаграфічныя, сацыяльныя, духоўныя ці якія-небудзь іншыя рэзервацыі".): "Не можа не бянтэжыць тая акалічнасць, што вось так разважае вясковая жанчына, слаўная працаўніца. Але ж бянтэжыць і іншае: якое дачыненне мае ўсе гэта да Беларусі? Хто ў нас расцягвае грамадства на гэтыя самыя "рэзервацыі"?

ТАМАХОК Сталінізм - сістэма арганізацыі жыцця ў краіне, што знаходзіцца на шляху пабудовы сацыялізму. Пачварнае скажэнне камуністычных ідэй, жорсткі ўдар па дыялектыцы і аўтарытэту камуністаў. Самае велізарнае і абсалютна недаравальнае злачынства перад народамі ўсяго свету. Асноўная прычына ўзнікнення - адсутнасць маральна-псіхалагічнага кантролю за дзейнасцю кіруючых індывідаў, як членаў партыйных органаў, так і прадстаўнікоў непасрэднай улады. Праявы сталінізму былі і застаюцца ў характарах многіх людзей, у тым ліку т.зв. "простых". Паколькі для СССР барацьба з комплексам сталінізму найбольш важная, неабходна адначасова з працягам глыбокага даследавання "сталінскага феномена" выпрацаваць раздзелы крымінальнага кодэкса і "маральны кодэкс" супраць сучаных і будучых сталіністаў.

***Бюлетэнь Беларуска-індзейскага таварыства 1989 № 7 1989-02-19, у т.л. пра Мексіку, беларускую майяністыку і індзейцаў як ахвяр "імперыі зла". У апошнім радку памылка друку (але дакладна такая ж была ў зале канферэнцыі 1994 г. "Беларуска-амерыканскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненні: традыцыі, сучасны стан, перспектывы" 1994 г., за што арганізатары папрасілі прабачэння)***

*гэтай паездкі, названая "Мексіка. Геаграфічны эцюд". Параўнанне навуковага даследавання з кароткім мастацкім творам у дадзеным выпадку як нельга дарэчы. Як мастак, які піша эцюд, Дабрынін пры апісанні геаграфіі Мексікі кіраваўся першымі, наймацнейшымі і, як правіла, дакладнымі ўражаннямі ад убачанага".*

Едучы з Веракруса да Арысабы, абагульніў карціну ландшафтаў і грутноўна, амаль на трэць усяго "эцюда", апісаў карэннае насельніцтва, адзначыўшы: *"…У нас вельмі мала вядома тое, наколькі Мексіка - індзейская краіна і наколькі добра захаваліся тут індзейскія народнасці са сваімі мовамі, расавымі прыкметамі і шматлікімі формамі побыту. З 15 мільёнаў жыхароў белыя складаюць менш за 1 мільён, тады як чыстакроўныя індзейцы - каля 9 мільёнаў; астатнія 5 мільёнаў - метысы, але якія больш набліжаюцца да індзейскіх рас, чым да белай. Колькасць неграў і мулатаў у Мексіцы мізэрная, нязначная таксама і колькасць імігрантаў з Кітая і Японіі. Наогул, іміграцыя ў Мексіку вельмі невялікая і амаль ураўнаважваецца эміграцыяй".*

Дабрынін сціпла называе вынікі свайго расазнаўчага даследавання *"некаторымі меркаваннямі": "...апіраючыся на літаратурныя крыніцы, але, акрамя таго, на ўласныяназіранні і збор матэрыялаў падчас майго падарожжа, я дазволю сабе выказаць тут, у чыста прыблізным парадку, некаторыя меркаванні аб асноўных расавых элементах Мексікі".* Сярод такіх вылучаных ім элементаў - сярэднеамерыканская, санорская і іншыя *"расавыя групы".* Дабрынін склаў карту шчыльнасці насельніцтва і схему *"галоўных народнасцей Цэнтральнай і Паўднёвай Мексікі і шляхоў (уплыву) тальтэкскай культуры".*

*"Пазнаёміўшыся з віртуозна напісаным эцюдам Б. Ф. Дабрыніна на тэму геаграфіі Мексікі, застаецца толькі шкадаваць, што яго падарожжа было кароткім. Яно не ахапіла ўсю гэтую краіну і не дазволіла аўтару эцюда стварыць "эпічнае палатно", у якім Дабрынін з уласцівым яму геаграфічным майстэрствам напэўна змог бы раскрыць усе асаблівасці разнастайнай прыроды і стракатага ў этнічным стаўленні насельніцтва Мексікі"* (цытаты з кнігі "Вялікія рускія экспедыцыі. Рускія географы ў Лацінскай Амерыцы", 2014, глава XII. "Б. Ф. Добрынин: поездка в Мексику в 1925 г.", А. В. Бредихин)).

Верагодна, у асноўным з-за недахопу сродкаў, а не часу, Дабрынін абмежаваўся кароткімі паездкамі і пешымі экскурсіямі, працуючы галоўным чынам у бібліятэцы Мексіканскага геаграфічнага таварыства, у Мексіканскім геалагічным інстытуце, у Дырэкцыі геаграфічных і метэаралагічных даследаванняў (тут, пры міністэрстве народнай асветы, была развітая картаграфія), у Нацыянальным музеі археалогіі і этнаграфіі.

10.03.1926 г. Дабрынін расказаў пра сваю паездку на імпрэзе ў Маскоўскім доме навукоўцаў. Там выступалі пасол Мексікі ў СССР Базіліа Вадыльё (выглядаў як цемнаскуры метыс) і У. Маякоўскі, які таксама нядаўна





пабываў у Мексіцы.

**Літ.:**

*255 Добрынин Б. Ф. Мексика: (географический этюд) // Землеведение. 1926. Т. XXVIII. Вып. I-II. Кн. 1-2. С. 35-56; Кн. 3-4. С. 45-66.*

*1950 Сизоненко А. И. Непроторенными путями: первые советские дипломаты и ученые в Латинской Америке / отв. ред. И. И. Янчук. М., 1988.*

*12454 Сизоненко А. И. Первый советский ученый в Мексике // Русские в Латинской Америке: (очерки). М., 2005. (Пра Б. Дабрыніна. Выдадзена ІЛА РАН. А. Сізаненку мы пісалі ў 2015 г., за два гады да яго смерці, але мелі з ім і тэлефонную размову ў час адной з дзвюх паездак у Маскву ў 1980-я гг.)*

**ПАНЧАНКА Пімен** - як і яго спадарожнік у паездцы па Канадзе (можна зразумець, што наведалі разам і вёску Канавага) Я. Брыль (гл.), Панчанка быў ураджэнцам адной з крайніх кропак Балтыйска-Чарнаморскага пояса - Таліна (а Брыль - адной з супрацьлеглых крайніх кропак, Адэсы). Тым не менш, яны фарміраваліся як асобы ў Беларусі, а на пэўныя нюансы іх светапогляду зрабілі ўплыў і заакіянскія ўражанні. У 1958 г. Панчанка быў на генасамблеі ААН, адным з вынікаў чаго стаў зборнік




***Envelope from Native Book Centre (Thornhill, Ontario - на паўночнай мяжы Таронта), US postage paid in Niagara Falls, NY, received in Gomel 1997-05-27 (укладзены каталог)***

вершаў "Нью-Йоркскія малюнкі" (1960), а Канада была дапаўненнем. Набліжаецца Панчанка да індзейскай тэмы ў вершы "Ніягара" (1951), а цыкл "За акіянам" мае індзейскія матывы ў вершах "Сустрэча з Ніягарскім вадаспадам", "Свята ў Палерма" (хаця прывязка ў апошнім больш "украінска-індзейская", але гэта было *"свята ў Палерма, калі некалькі тысяч беларусаў, рускіх, украінцаў, якія жывуць далёка ад Радзімы, сабраліся ўсе разам"*).

Мы пісалі Панчанку (№ 168 4.07.1992):

*"Паважаны Пімен Емяльянавіч!*

*Сардэчна віншуем Вас з юбілеем. Найлепшыя пажаданні Вам ад беларускіх індзеяністаў.*




***Indian Friendship Centre Newsletter (Sault Ste. Marie) 1997 Spring-Summer, front cover***

*Мы рыхтуем манаграфію па гісторыі беларуска-індзейскіх сувязей і былі б удзячны за Вашы ўспаміны пра сустрэчы з карэннымі амерыканцамі і найбольш моцныя ўражанні ад прачытанай Вамі "індзейскай" літаратуры.*

*У некалькіх вершах Вы закранаеце індзейскую тэматыку - прычым адным з першых у беларускай літаратуры. Ёсць месца, дзе Вы гаворыце пра жыццё славян "На чужыне, на зямлі індыйцаў". Трэба думаць, Вы наўмысна пакінулі гэтую "калумбаўскую" назву жыхароў Вострава Чарапахі (як індзейцы называюць амерыканскі кантынент) пры перадруку "Свята ў Палерма"? Цікава было б даведацца, чаму не выправілі на "індзейцаў". (Дарэчы, гэтыя радкі пераклікаюцца з вершам Я. Таўпы з "Баявой ускалосі". Хаця дух беларускага замежжа мне не вельмі падабаецца, але "Кры" Янкі [правільна - Язэпа] Таўпы - надзвычай выразны. А ці чулі Вы пра такога беларуска-канадскага паэта? Там, варта дадаць, пішуць "індыяны", "індыянскае").*

*Будзем вельмі ўдзячны за адказ.*

*З павагай Алесь Сімакоў, выканаўчы сакратар".*

**Літ.:**

*682 Панчанка П. За акіянам: [...] Свята ў Палерма. - Сустрэча з Ніягарскім вадаспадам [...] // Полымя. 1960. № 12. С. 3-11.*







**Postcard from Canada. Cornelius Krieghoff. Three Indians in Winter Scene. Montreal Museum of Fine Arts**




**Postcard (калекцыя БІТ). Карнэліўс Крыгхаф (Krieghoff) вядомы замалёўкамі з Другой семінольскай вайны і рэзервацыі Канавага ў Канадзе**

*10638 Панчанка П. Каб ведалі: [рэц. на кн.: Танк М. Каб ведалі]. Мн., 1948 // Літаратура і мастацтва. 1948. 20 сак.*

*10639 Панчанка П. Каб ведалі // Панчанка П. Збор твораў: у 3 т. Мн., 1971. т. 3.*

*10640 Панчанка П. Каб ведалі // Панчанка П. Збор твораў: у 4 т. Т. 4. Мн, 1983. С. 23-27.*

*4690 Панчанка П. "Маленства, не заглядвай у хату..." // Панчанка П. Лясныя воблакі: вершы. Мн., 1985. ("Што знаем пра этрускаў мы ці інкаў, / Які ў іх спраў і думак быў размах? / Што будуць знаць пра нас?"; П. Кошаль у сваім перакладзе вырашыў абысціся без інкаў: "Дела их - как зарубки на веках... / Что об этрусках мы с тобой узнали, / Каков их дел и мыслей был размах? / Что будут знать о нас?" ("Ах, детство, не броди ты возле дома...", 1985).)*

*2591 Панчанка П. "Маленства, не заглядвай у хату..." // Панчанка П. Выбранае: вершы, паэма / прадмова Р. Барадуліна. Мн., 1993. С. 463-464.*

*4682 Панчанка П. Ніягара // Звязда. 1951. 18 лют.*

*5706 Панчанка П. Ніягара // Панчанка П. Збор твораў: у 3 т. Т. 2. Мн., 1967. С. 26-29.*

*193 Панчанка П. Ніягара // Панчанка П. Збор твораў: у 4 т. Т. 2: Вершы. Паэма (1946-1962 гг.). Мн., 1981. С. 139-141.*

*5692 Панченко П. Ниагара / пер. И. Авраменко // Панченко П. С тобою, Отчизна! / авториз. пер. с бел. Мн., 1952. С. 95-99.*

*683 Панчанка П. Свята ў Палерма. - Сустрэча з Ніягарскім вадаспадам. - У экспрэсе Дэтройт-Чыкага // Калгасная праўда. 1960. 13 снеж.*

*5694 Панчанка П. Свята ў Палерма // Полымя. 1960. № 12.*

*5707 Панчанка П. Свята ў Палерма // Панчанка П. Збор твораў у 3 т. Т. 2. Мн., 1967. С. 272-273.*

*5699 Панчанка П. Свята ў Палерма // Панчанка П. Тысяча небасхілаў: Вершы. Мн., 1962. С. 60-61.*

*194 Панчанка П. Свята ў Палерма // Панчанка П. Збор твораў: у 4 т. Т. 2: Вершы. Паэма (1946-1962 гг.). Мн., 1981. С. 340-341.*

*5697 Панченко П. Праздник в Палермо / пер. А. Корчагина // Известия. 1961. 10 марта.*

*5702 Панченко П. Праздник в Палермо / пер. И. Шкляревского // Панченко П. Небосклоны: стихи / пер. с бел. М., 1966. С. 125-126.*

*4699 Панченко П. Праздник в Палермо / пер. И. Шкляревского // Панченко П. При свете молний: избранное, стихи: пер. с бел. / вступ. ст. Я. Хелемского. М., 1974. С. 226-227.*

*5696 Панчанка П. Сустрэча з Ніягарскім вадаспадам // Калгасная праўда. 1960. 13 снеж.*

*5695 Панчанка П. Сустрэча з Ніягарскім вадаспадам // Полымя. 1960. № 12.*

*5700 Панчанка П. Сустрэча з Ніягарскім вадаспадам // Панчанка П. Тысяча небасхілаў: вершы. Мн., 1962. С. 64-65.*

*5708 Панчанка П. Сустрэча з Ніягарскім вадаспадам // Панчанка П. Збор твораў у 3 т. Т. 2. Мн., 1967. С. 269-270.*

*195 Панчанка П. Сустрэча з Ніягарскім вадаспадам // Панчанка П. Збор твораў: у 4 т. Т. 2: Вершы. Паэма (1946-1962 гг.). Мн., 1981. С. 338-339.*

*2592 Панчанка П. Сустрэча з Ніягарскім вадаспадам // Панчанка П. Выбранае: вершы, паэма / прадмова Р. Барадуліна. Мн., 1993. С. 268-269.*

*4692 Панченко П. Встреча с Ниагарским водопадом / пер. Н. Кислик // Панченко П. Избранные произведения: в 2 т. Т. 1: Стихотворения. Поэмы, 1939-1960. М., 1984. С. 228-229.*

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-індзейскіх сувязей.*
***Ales Simakou,***
*researcher of Belarusian-Indian (American Indian, Native American, Amerindian, First Nations) connections.*





# Прыгажосць Божага свету










Адкрыты пленэр педагогаў-мастакоў "Прыгажосць Божага свету" прайшоў у Лідскім раёне.

***ТК "Культура Лідчыны".***

***Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік***

***Адрас рэдакцыі:***
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** sudnik@list.ru, sejlawiczy@gmail.com

Газета падпісана да друку 19.06.2023 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 2,5 друкаванага аркуша.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://kamunikat.org/; http://belkiosk.by/**

*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*